


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі!* **Францішак БАГУШЭВІЧ**

# НАША СЛОВА

**№ 6(16) • 27 САКАВІКА — 2 КРАСАВІКА • 1991**

**Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**
**Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)**


## Афіцыйнае запытанне народнага дэпутата

Мы паведамлялі ўжо пра вандалізм у адносінах да памяшкання ТБМ, дзе месціцца і рэдакцыя «Нашага слова». Зноў згадаў пра гэта і народны дэпутат Беларускай ССР Яўген Цумараў у «Народнай газеце» ад 23 сакавіка. Гаворачы пра ганебныя сродкі, якія дазвалялі сабе некаторыя актывісты «обновленного Союза» ў часе рэферэндуму, народны дэпутат зазначыў: «Няўжо трэба было любой цаной збіраць галасы за такі Саюз, прыхільнікі якога пад сковай цемры... атакавалі памяшканне Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, выламалі «жыўцом» і выкралі шыльду з адлюстраваннем ненавіснай «Пагоні» ды Скарынавых знакаў сонца і паўмесяца?

Народны дэпутат прыйшоў да высновы, што дзёрзкая акцыя рабаўніцтва і знявагі памяшкання Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, статут якога зарэгістраваны Прэзідыумам Вярхоўнага Савета БССР, вымушаюць ставіць пытанне «не толькі як аб правакацыі супраць іншадумцаў, але і як аб шавіністычнай, антыбеларускай акцыі, накіраванай супраць Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР, Канстытуцыі БССР і Закона БССР аб мовах». У сувязі з гэтым, лічыць народны дэпутат, «адказ на гэта пытанне павінен даць старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі БССР тав. Шыркоўскі», да якога паводле канстытуцыйнага права зварот звернуты афіцыйна.

Дададзім яшчэ, што налётчыкі не пасароміліся нават сплюгавіць выстаўлены ў шкляным праёме дзвярэй плакат мірнага руху рэрыхаўцаў з заклікам берагчы асяродак жыцця — прыроду і садзіць дрэўцы.

## Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча

*У ГЭТЫМ ГОДЗЕ ДЗЕВЯТАГА СНЕЖНЯ СПОЎНІЦЦА 100 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВЫДАТНАГА БЕЛАРУСКАГА ПАЭТА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА. РЭДАКЦЫЯ ПАЧЫНАЕ ЗМЯШЧАЦЬ МАТЭРЫЯЛЫ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ ЮБІЛЕЮ.*

*...баронячы наш народ, мы павінны бараніць і нашу культуру. І што б там ні было, а гмах яе, калісці распачаты, павінен быць збудаваны да канца.*
*Максім БАГДАНОВІЧ.*

# І. «МАЦІ-КРАІНА»

Дваццаць пяць гадоў таму назад, калі яшчэ вучыўся ў Львове, старажытнай сталіцы Галічыны— гэтага непаўторнага ўкраінскага краю, пра які так шчыра пісаў М. Багдановіч, у мяне ўзнікла адна задума. А што, калі фотапромнем узнавіць застылы на паперы той або іншы радок любімага пісьменніка, яшчэ раз паглядзець вачыма самога Максіма-Кніжніка на Маці-Краіну, на тыя землі, якія ён бачыў ці ўяўляў, паважаючы-шануючы братоў-суседзяў? Так пачалася своеасаблівая фотаілюстрацыя спадчыны геніяльнага сына Беларусі. Прадстаўляю чытачам «Нашага слова» першую старонку кнігі, імя якой дадзена самім Багдановічам — «Маці-Краіна».

Сяргей ПАНІЗНІК.



*Максім БАГДАНОВІЧ*

### *Пагоня*

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*За Краіну радзімую жах,—*
*Успомню Вострую Браму Святую*
*І ваякаў на грозных канях.*

*У белай пене праносяцца коні,—*
*Рвуцца, імкнуцца і цяжка*
*хрыпяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць,*
*не стрымаць.*

*У бязмежную даль вы ляціце,*
*А за вамі, прад вамі — гады.*
*Вы за кім у пагоню спяшыце?*
*Дзе шляхі Вашы йдуць і куды?*

*Мо яны, Беларусь, панясліся*
*За тваімі дзяцьмі ўздагон,*
*Што забылі Цябе, адракліся,*
*Прадалі і аддалі ў палон?*

*Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць...*

*Маці родная, Маці-Краіна!*
*Не усцішыцца гэтакі боль...*
*Ты прабач, ты прымі свайго сына,*
*За Цябе яму ўмерці дазволь!..*

*Усё лятуць і лятуць тыя коні,*
*Срэбнай збруяй далёка грымяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць,*
*не стрымаць.*

*Максім Багдановіч быў адзін з першых, хто ўчытаўся ў гераічныя старонкі нацыянальнай гісторыі і глянуў на свой народ як на народ з эпічным мінулым. Гэта быў прынцыпова важны крок наперад у развіцці нацыянальнай самасвядомасці і гістарычнай думкі на Беларусі. Ніхто да яго ў беларускай літаратуры з гэткай сілай і пераканаўчасцю не сказаў аб тым, што Беларусь мела калісьці — якіх асветнікаў, мысліцеляў і вучоных, якую кніжную культуру, мастацтва і дойлідства, якія самабытныя народныя промыслы і рамёствы! А сказаў ён гэта таму, што як адзін з найбольш адукаваных і культурных людзей свайго часу кіраваўся разуменнем і пераканнем: немагчыма тварыць сёння ў адрыве ад таго, што было створана ўчора, не адчуваючы пад нагамі той духоўнай глебы, што складалася цягам папярэдніх эпох.*

*Ніл ГІЛЕВІЧ.*

## *ПЫТАННЕ — АДКАЗ*

Шаноўны рэдактар! Вы зрабілі передрук з літоўскай «Республики», зрабіце тое ж з нашай «Звязды» за 19.02.

З павагай жыхар г. Полацка.

Хоць пісьмо ананімнае, без подпісу, а да таго яшчэ і на машынцы надрукаванае (каб почырку нават не паказаць?), я, са згоды супрацоўнікаў рэдакцыі, на яго ўсё ж адказваю. Бо чалавек, які гэта паслаў, існуе, я шаную яго як асобу і прызнаю за ім права на ўласную пазіцыю, а можа і нязгоду з нейкай газетнай публікацыяй. Шкада, што паважаны жыхар г. Полацка не назваў сябе, бо была б магчымасць паслаць яму асабістае пісьмо. Дарэчы, аўтарам дапісаў, якія па нейкіх прычынах не жадаюць публікаваць сваё прозвішча, рэдакцыя гэта гарантуе. Але што ж...

Заадно хачу адказаць чытачам (прозвішчы свае яны ўказалі), якія выказалі шкадаванне, што мы не паведамілі пра адносіны беларусаў — жыхароў Літвы — да крывавай акцыі штурмавікоў у Вільні. Матэрыял такі мы мелі, аднак у той сітуацыі палічылі больш неабходным паказаць адносіны саміх рускіх (ва ўсякім разе большасці) Літвы да таго, што іх гэткім чынам узяліся «абараняць». З тае ж прычыны мы спыніліся менавіта на публікацыях у рускамоўнай і незалежнай літоўскай газеце «Республика». Прывялі ўсяго два дакументы: «Зварот рускага культурнага цэнтра» і выказванні беспартыйнага — праваслаўнага архіепіскапа Віленскага і Літоўскага Хрызастома.

Цяпер наконт перадруку са «Звязды». Адразу скажу: ставімся да гэтай газеты з разуменнем, заўсёды вітаем яе публікацыі ў абарону нацыянальнай культуры. «Звязду» выпісваюць Рэспубліканская рада ТБМ, некаторыя супрацоўнікі «Нашага слова», іншыя купляюць у кіёсках «Саюздруку». І наогул газета разыходзіцца па ўсёй рэспубліцы, мае даволі вялікі тыраж. Таму ці ёсць патрэба рабіць з яе передрукі нашаму невялікаму штотыднёвіку? Іншая справа — адгукнуцца на нейкую публікацыю. Што мы і думаем рабіць. Асабліва, калі будуць закранацца праблемы экалогіі мовы, культуры народа. А вось звяздоўская публікацыя, якую Вы, шаноўны чытач з Полацка, прапануеце передрукаваць, адносіцца да катэгорыі чыста палітычных. Мала таго — напісана вельмі суб'ектыўна і з нейкай нават хваравітай напалоханасцю. Яна і назву мае адпаведную: «І мне стала страшна...» Вось, дзякуючы Вам, перачытаў і зноў не зразумеў: сапраўды аўтара нечым напалохала ўбачанае і пачутае ці ён гэтак імкнецца чытача запалохаць? Мяркуйце самі: чалавек пабываў на ўстаноўчай канферэнцыі «Дэмакратычнага кангрэсу» ў Харкаве (дарэчы, з публікацыі я нават не зразумеў, што гэта такое), і стала яму «страшна». Чаго? Нехта там, аказваецца, задаваў пытанне — «а ці патрэбен новы Саюз»? Дык з 1985 года ў нас ужо наогул шмат чаго нагаварылі, а што змянілася? Цэны? Далей: бачыць на сцяне ў фае фатаграфіі нейкіх, як ён заўважае, «бязвусых юнакоў, якія трымалі плакаты і лозунгі «Бі камуняк» — зноў палохаецца. Безумоўна, нікуды не варта, каб нехта некага беспакарана заклікаў «біць». Вось па цэнтральнай тэлевізіі двойчы запар паказвалі мітынг вайскоўцаў каля Крамля 23 лютага, і з іх плакатаў і транспарантаў я зразумеў: яны таксама гатовы «біць» іншадумцаў, якіх, не саромячыся ў выразах, называлі «дерьмократами». Яны — прыхільнікі КПСС. А тыя «бязвусыя»? Можа, проста правакатары? Ці яшчэ: наглядае аўтар, як ў фае «ледзь сowaліся слабыя старыя — ветэраны руху АУН» і «ўздыхаючы... прыгадвалі даўно мінулыя дні, калі змагаліся з «камунізмам», — палохаецца.

Падзівіла наогул, што матэрыял гэтак насычаны зняважлівымі характарыстыкамі, разлічанымі на распальванне варажнечы да «дэмакратаў» (аўтар нататак бярэ гэтае слова абавязкова ў іранічны двукоссі). А падзівіла таму, што напісаў гэта... старшыня Беларускага хрысціянскага саюза (я пра такі і не чуў) — С. Насенка, як ён назваўся. Мне ж заўсёды здавалася, што хрысціянская місія — садзейнічаць усталяванню згоды і міру нават паміж варагуючымі, пропаведзь узаемнай дабрыні і цярплівасці. Бо сапраўды — без гэтага ўсе аднапартыйныя перамогі, як сведчыць гісторыя, канчаюцца аднолькава — народнай бядою.

З павагай — Э. ЯЛУГІН.

# «АД ІНШЫХ СВАЁЙ ЦЕПЛЫНЁЮ АДМЕТНАЯ»

Знаўцы кажуць, што ў гарах ад гуку голасу зрываюцца ўніз снегавыя лавіны.

Нашы продкі таксама верылі ў чарадзейную сілу слова, добра ведалі яму цану. Слова, аднойчы пушчанае ў свет, заўсёды вярталася, і моц яго ўзрастала дзесяцікроць. На маёй Глушчыне нават прымаўка жыве: «Сказаў на кіпець, а вырасла на локаць». А ў замовы бабак і шаптуноў, хоць ёсць і свая ў вёсцы амбулаторыя, вераць так, як, можа, у часы паганства.

Як натуральна гучала роднае слова ў гады вясковага дзяцінства! Толькі пазней прыйшло разуменне, што і алгебру, і фізіку мы вучылі па падручніках, напісаных беларускаю моваю. Адшукаўшы на гарышчы сваю дзіцячую чытанку «Кітайскія казкі», здзівіўся, што некалі з сябрам чытаў гэту кніжку, купленую ў краме за два курыныя яйкі, і не заўважаў, на якой мове яна. Сёння мой сябар бойка лапоча «па-гарадскому», хоць і жыве ў вёсцы, і не разумее, чаму я гавару «па-свойму». «Ад іншых сваёй цеплынёю адметная» (Л. Геніюш) наша мова за апошнія тры дзесяцігоддзі страціла сваю мілагучнасць, стала калянай, як зжоўклы ліст, цвёрдай, як жарства. Часам не пакідае ўражанне, што чалавек думае па-нямецку, а стараецца гаварыць па-беларуску. Вядома, дзякуй і за старанне! Але ўсё ж такі, што адбываецца з беларускім словам?

А адбываецца з ім тое, што і з усім светам, які на нашых вачах губляе сваю шматстайнасць і шматгалоссе і пакрысе спаўзае да заняпаду. На Беларусі гэты працэс, як зазвычай, набыў сваю крайнюю, «чорную» форму, і ўсё часцей гучыць слова «катастрофа». Вядома, ратункам было б ажывіць магутны гістарычны механізм родавай памяці і раскруціць стужку часу віток за вітком, ажно да часу, калі заключаліся кожныя два-тры гады уніі і пакрысе адымаліся ў беларускага грамадзянства ўсе яго прывілеі, каб урэшце вярнуцца да зыходнай пазіцыі, калі земскі пісар павінен быў пісаць «на языку тому, які бліжэй яго дому». На жаль, гісторыя не ведае ўмоўнага ладу і падпарадкуецца сваім законам. Мы можам хіба толькі ўлічыць урокі мінулага.

Як бы ні іранізавалі гісторыкі над царскім Маніфестам ад 17 кастрычніка 1905 года («Царь испугался, издал манифест...»), але фактам было тое, што аб'яўленая «зверху» свабода слова адмяніла тым самым забарону на беларускую мову і адчыніла шлях беларускаму друку. Менавіта тады ўзніклі і «Наша Доля», і «Наша Ніва», школкі на роднай мове і выдавецкія суполкі. А беларуская літаратура ўсяго толькі за адно дзесяцігоддзе прайшла шлях, роўны, паводле выказвання М. Багдановіча, сотням гадоў, і ўпэўнена ўваходзіла не толькі ў «сям'ю нялічаных славян», але ж і ва ўлонне еўрапейскай цывілізацыі. Інерцыя руху і рост па экспаненце былі такімі магутнымі, што абуджанай творчай энергіі хапіла яшчэ на адно, ужо паслярэвалюцыйнае, дзесяцігоддзе, калі ўмовы бытавання беларускага слова крута змяніліся.

За эйфарыяй рэвалюцыйных лозунгаў «Зямля — сялянам!», «Уся ўлада Саветам!», «Мір — народам!» мала хто заўважыў «ціхую» забарону на свабоду слова, якая адбылася ўсяго праз два тыдні пасля Кастрычніцкага перавароту. У паветры загучалі новыя словы, абрэвіятуры, наватворы; і людзі, хто з прыкрасцю, а многія і з захапленнем асвойвалі гэту лексіку, гэта «навамоўе», як назваў яе пазней Дж. Аруэл, не разумелі, што тым самым пераходзяць у іншасвет, дзе пануюць паняцці адваротныя лозунгавым. Зямля была аддадзена сялянам, але належала дзяржаве. Улада была ў Саветаў, але ў Саветах засядалі бальшавікі. Мір з немцамі абярнуўся грамадзянскай вайной. «Слова «свабодны»,— пісаў Дж. Аруэл,— у навамоўі засталося, але яго можна было скарыстоўваць толькі ў выказваннях, як «свабодныя боты», «туалет свабодны». Яно не ўжывалася ў старым значэнні «палітычна свабодны», «інтэлектуальна свабодны», бо свабода думкі і палітычная свабода не існавалі нават як паняцці».

Беларускія пісьменнікі хутка адчулі гэты татальны націск новых слоў і чужых паняццяў. «Ён жа чалавечай душы не прызнае!» — з адчаем гукаў адзін з герояў ранняй прозы К. Чорнага. Знікалі, выцясняліся, скажаліся многія словы. У прозе таго ж Чорнага бойка ішла не столькі паміж героямі, прадстаўнікамі варожых класаў, колькі паміж словамі «чуласць» і — «чэрствасць», «любоў» і — «нянавісць», «міласэрнасць» і — «жорсткасць». А словы «гуманізм», «інтэрнацыяналізм», «дэмакратыя» ў яго ж публіцыстыцы, якая была ў малым маштабе адлюстраваннем змен у ідэалагічным жыцці краіны, інакш не ўжываліся, як з прыметнікам «сацыялістычны». Барацьба ішла не толькі з назоўнікамі, якія неслі ў сабе «чужы» змест (слова «міласэрдзе» ўжывалася ў слоўніках з адзнакай «устар.»), але асабліва бязлітасна з прыметнікамі і дзеясловамі, бо яны мелі ў большасці сваёй ацэначны характар. Змены ў адносінах да слова найбольш шчыра і безагаворачна выявіў у адным з праграмных вершаў таго часу П. Броўка: «Мне трэба, каб слова падносіла цэглу...» Болей ні на што іншае беларускае слова не было здатным.

Як жа караў крыху пазней сябе за свядомыя і міжвольныя памылкі і маўклівую згоду з афіцыйнай хлуснёй К. Чорны! Неспадзявана выйшаўшы з яжоўскай турмы на волю, смяртэльна хворы чалавек, ён ледзь не з першабытнай чуласцю і адчайдушшам паўтараў у новых сваіх творах, бы заклінаў, словы: «міласэрны», «міласцівы», «літасцівы», «чулы», «ласкавы», «пяшчотны», «чалавечны». Праўду кажучы, і П. Броўка, адно што куды пазней, ужо ў апошнія гады жыцця, прыкметна змякчыў жорсткасць сваёй класавай пазіцыі і ахвотна ўжываў словы з агульначалавечай лексікі. Класава-партыйнае, чыноўніцкае выдыхлася і ў афіцыйнай ідэалогіі, і ў нацыянальнай літаратуры.

Беларускі пісьменнік міжволі станавіўся чыноўнікам у таталітарным грамадстве. Нават тады, калі ён усімі сіламі душы супрацiўляўся націску «навамоўя», ён змушаны быў ужываць словы, уведзеныя дэкрэтамі ўладных структур. Усё было скіравана на тое, каб пісьменніка, як, дарэчы, і любога мастака, інтэлігента, ператварыць у дробнага служачага — няхай «вобразна» ілюструе спушчаныя, дазволеныя «зверху» тэмы і праблемы і не прэтэндуе на ролю праўдалюбцы, прарока ў сваёй айчыне. І ён ілюстраваў, распрацоўваў, здзяйсняў вялікасныя «планы партыі — планы народа». «Двайныя стандарты», «двайная мараль», «двоедумства», хацеў ён таго ці не хацеў, непазбежна выяўлялася ў слове. Слова, з прычыны сваёй адпершаснай чысціні і глыбіні, супраціўлялася і ўрэшце выдавала пісьменніка з галавой. Узоры гэтага можна адшукаць, адкрыўшы любую беларускую кнігу на любой старонцы: «Лена зараз арганізоўвала вольны час дзяцей», «Увесь трэці курс у яго быў разлад з каханай дзяўчынай», «яна аблапошыла яго па ўсіх параграфах», «аматары вострых уражанняў», «так хутка зрушылася самае балючае пытанне», «назвы вуліц нараджаліся пад гарачую руку», «табе не казалі, у якія войскі мецяць?», «і ён назаўсёды пахаваў у сабе планы, складзеныя на дваіх у душы з Аленкай», «доўга ішло змаганне», «некіруемая чалавечая маса», «правядзенне маючых адбыцца баявых вучэнняў»... Як пісаў Дж. Аруэл, творцы «навамоўя» распрацавалі сродак, які знішчаў у мове любую крамолу, варта толькі паставіць побач некалькі назоўнікаў у родным склоне: «нарошчванне паскарэння тэмпаў развіцця». Пісьменнікі розныя, але аблічча з-за гэтых слоў і выразаў праступае адно — чыноўніка ад мовы, саўслужа новай пароды, выведзенай таталітарызмам, *homo sovieticus*.

Паэта Амоса, пастуха з Тэкоа, некалі пакаралі за адно тое, што ягоныя словы збываліся. Нашых пісьменнікаў, якія прыйшлі ў літаратуру ў 20—30-я гады, таксама каралі смерцю за тое толькі, што яны пісалі па-беларуску, а гэта ўжо само па сабе было небывалай крамолай і кантррэвалюцыяй. Не сказаць, што сёння пісьменнік адчувае сябе ўтульна. Беларускае слова, як і раней, пад падазрэннем. Высокапастаўленыя аўгуры ад культуры, партакратыя і дробнае чыноўніцтва ўспрымае гэта слова як верны знак вальнадумства. Якіх толькі хітрасцей і выкрутасаў не прыдумваецца, каб толькі замарудзіць натуральны рост нацыянальнай самасвядомасці беларусаў! У апошнія часы наша слова, якое з вялікім ці малым поспехам супрацьстаяла несвабодзе, чакае новае, куды больш жорсткае, выпрабаванне дэмакратыяй, плюралізмам, рынкам. Той небяспечны водападзел паміж кнігай і чытачом, які больш за ўсё перашкаджае росквіту культуры ў грамадстве, пашыраецца за кошт прадукцыі маскультуры. Вядома, можна выкарыстаць і кіч, прымусіўшы яго таксама працаваць на нацыянальна-духоўнае Адраджэнне. Здолеў жа У. Караткевіч зачараваць чытача, звярнуўшыся да папулярнага ва ўсе часы дэтэктыва! Але несумненна і тое, і творчасць лепшых беларускіх паэтаў і празаікаў гэта пацвярджае, што ў мастацкага слова ёсць свая асобная сфера, куды не дацягнуцца ні жорсткая рука Дыктатара, ні брудная лапа спекулянта-кааператара, і гэта — сфера чалавечага Духу, бо ў векавечным змаганні Духу, увасобленага ў Слове, і Сілы, якая трымаецца на прымусе і гвалце, кволы парастак адухоўленага Слова заўсёды знаходзіць сабе шлях да людзей.

Міхась ТЫЧЫНА.

*Мінулае* *Мінулае*

***Калі пасля няўдалай вайны з пілсудскай Польшчай урад СССР, згодна з Рыжскім дагаворам 1921 года (дарэчы, самі беларусы яго не падпісвалі), не спытаўшыся ў насельніцтва, аддаў палякам Заходнюю Беларусь, для яе карэнных жыхароў пачаўся цяжкі перыяд за нацыянальнае выжыванне.***

***Сёння мы пачынаем друкаваць успаміны былых вучняў заходнебеларускіх гімназій.***

***Карыстаемся нагодай выказаць ўдзячнасць пісьменніку Янку Брылю, члену рэдакцыйнай калегіі «Нашага слова». Ён шукае гэтых людзей, збірае іх допісы, якія маюць безумоўную каштоўнасць для беларускай культуры.***

# ЗМАГАННЕ ЗА РОДНАЕ СЛОВА

Характэрнай адзнакай нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі было змаганне за роднае слова. Сяляне настойліва дамагаліся ад польскай улады адкрыцця беларускіх школ, што амаль не ўдавалася. А таму вяскоўцы, адрываючы ад свайго вельмі скромнага сямейнага бюджэту капейку, стараліся адкрыць хоць прыватную беларускую школу. Але і гэта забаранялася.

У маёй роднай вёсцы Чамяры (каля Слоніма) у 1925 годзе каля трох месяцаў праіснавала прыватная беларуская школа, у якой давялося вучыцца і мне. Кажу «праіснавала». Бо аднойчы на ўрок роднай мовы ўвайшлі два паліцыянты і заявілі настаўніку Максіму Тарасавічу Бурсевічу (у будучым вядомаму грамадска-культурнаму і палітычнаму дзеячу), што школа закрываецца. Вучні пачалі плакаць, але няпрошаных «гасцей» гэта ніколькі не турбавала.

Пасля закрыцця нашай школы некаторыя дзеці не пайшлі ў польскую школу, дзе настаўнік паляк за няправільнае вымаўленне чужога слова біў «лапу» або ставіў на калені. Бацькі дзяцей, што не жадалі наведваць чужую школу, караліся грашовымі штрафамі.

Такім чынам я і ўсе мае сябры прымушаны былі ісці да «пана наўчыцеля». Але тое, што за тры месяцы змог сярод нас пасеяць Максім Тарасавіч, моцна запала ў душы, не забывалася. Многія з нас падумоўвалі, як паступіць у Віленскую беларускую гімназію, што маячыла прывабным агеньчыкам. Хадзілі адзін да аднаго і заклапочаныя бацькі.

І вось у 1926 годзе да нас у Чамяры прыехаў вучань старэйшых класаў Віленскай беларускай гімназіі Казімір Чартовіч. За летнія канікулы ён падрыхтаваў да паступлення ў гімназію восем чамяроўскіх юнакоў.

Ехалі мы ў Вільню з вясёлым хваляваннем: як там што будзе, ці паступім? Прыехалі і ўсе размясціліся ў інтэрнаце. І ўсе здалі ўступныя экзамены ў класы, у якія рэкамендаваў наш падрыхтоўшчык і старэйшы сябра Чартовіч.

Прадметы ў гімназіі выкладаліся на беларускай мове, акрамя польскай, гісторыі і геаграфіі Польшчы, якія падносілі нам па-польску, і закона божага — па-руску.

Вядома, найбольш мы любілі ўрокі роднай мовы і роднай літаратуры. Многім гімназістам пашанцавала мець такіх настаўнікаў, як Ігнат Дварчанін, Сяргей Паўловіч, Рыгор Шырма, якія вельмі цікава, даходліва расказвалі пра лёс нашай старонкі, прывівалі любоў да роднай прыроды, да простых, сумленных, працавітых людзей. Акрамя таго, Шырма і Паўловіч праводзілі пазакласныя добраахвотныя заняткі, знаёмілі вучняў з лепшымі творамі рускай літаратуры, асвятлялі важнейшыя гістарычныя падзеі.

Асабліва зачароўваў нас Ігнат Сымонавіч Дварчанін, які даваў урокі па беларускай літаратуры. Ён без ніякіх падручнікаў умеў данесці да слухача чароўнасць беларускай паэзіі, непаўторную прыгажосць родных краявідаў, тонка, на прыкладах літаратурных твораў, паказаць сацыяльную несправядлівасць у адносінах да простага народа. Слухаючы такога настаўніка, кожны з нас, як не ў сапраўднасці, то ў душы, станавіўся паэтам. І не дзіўна, што на апошнім, развітальным уроку Ігната Сымонавіча, якога выбралі дэпутатам польскага сейма, дзяўчаты плакалі.

Пасля І. Дварчаніна ў пятым класе вяла беларускую мову і літаратуру Алёна Сакалова. З далечыні да тых гадоў нічога дрэннага не магу сказаць пра гэтую жанчыну — добра вяла ўрокі. Аднак яна засталася як бы ў тумане, бо перад вачамі заўсёды стаяў Ігнат Сымонавіч, які, дарэчы, будучы паслом сейма, наведваў інтэрнат, цікавіўся жыццём-быццём вучняў, частаваў курцоў дарагімі папяросамі.

Жорстка, шавіністычна ставіўся да нас, вучняў-беларусаў, выкладчык гісторыі Польшчы па прозвішчы Віслоух. Ён не прызнаваў ніякай Беларусі, па яго вучэнню наша зямля — гэта «рдзэнна Польска». Вядома, ягоны прадмет, які складаўся з адных каралёў, мы не вельмі вывучалі, але ў расказе, напрыклад, пра Баляслава Храбрага даволі было сказаць «вальчыл, яко лев», каб атрымаць добрую адзнаку.

Падпольны камсамол і сумеснае жыццё ў інтэрнаце шчыльна згуртоўвалі моладзь на глебе нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Кожны малодшы вучань марыў быць такім, як старэйшыя Язэп Урбановіч, Алесь Салагуб, Якуб Міско, Міхась Тарасюк, Барыс Махляр... Дарэчы, аднойчы Барыс пацярпеў з-за свайго прозвішча. Пры арышце ў яго спыталі: «Як назвіско?» І ён правільна адказаў: «Махляр». Паліцэйскі прыняў адказ за жарт і ўдарыў хлопца гумовай палкай.

У гімназіі вучні выпускалі рукапісныя газеты і часопісы «Рэха», «Пралескі» і інш. Гэта таксама станоўча ўплывала на нацыянальную свядомасць падрастаючага пакалення.

Трэба адзначыць, што значную выхаваўчую ролю адыгрывалі даклады (ці, як тады казалі, рэфераты), якія чыталі на роднай мове беларускія дзеячы. Напрыклад, каб пабыць на лекцыі ў Цэнтральнай управе ТБШ, вучні цэлым караванам неслі над галовамі крэслы з Вострабрамскай, дзе знаходзілася гімназія, на вуліцу святой Ганны, дзе размяшчалася ўправа. Зразумела, пасля рэферата такім жа караванам з крэсламі вярталіся ў гімназію. І гэта было звычайна, не сорамна пры нашай грамадскай беднасці. І таму мы ўсе марылі аб сонечных днях і непахісна змагаліся «за лепшую долю».

Тым часам гімназію пачалі патроху паланізаваць, перашкаджаць вучням праводзіць масавыя культурна-асветныя мерапрыемствы, такія, як вечары мастацкай самадзейнасці. Мабыць, прасачылася ў дэфензіву камсамольская дзейнасць школьнікаў, бо старэйшыя вучні ўсюды актыўна выступалі ў абарону нашай мовы і культуры.

Словам, пад канец 1928 года дырэктар Радаслаў Астроўскі вывесіў спіс вучняў, якія звальняліся з гімназіі як бунтаўшчыкі парадку (вядома, у ягоным разуменні). У адказ ва ўсіх класах пачаліся бурныя хваляванні, узнікла забастоўка з патрабаваннем вярнуць усіх зволеных. Пад вечар пачалося нешта страшэннае, паліцыя выцягвала з класаў хлопцаў, старэйшых арыштоўвала і адпраўляла на допыт, а малодшых адразу, пад канвоем, адпраўляла да бацькоў.

Так закончылася і мая вучоба ў Віленскай беларускай гімназіі. Польскія газеты пісалі, што тады было выдалена каля ста вучняў. А праз некаторы час Астроўскі разаслаў бацькам афіцыйныя пісьмы, што іх дзеці не прынясуць карысці ні бацькам, ні бацькаўшчыне (шкада, што такое пісьмо ў мяне не захавалася).

І хоць многія мае сябры не скончылі гэтай гімназіі, аднак сталі знатнымі людзьмі, прайшоўшы праз жорсткія выпрабаванні. Язэп Урбановіч — вядомы рэвалюцыянер з часоў панскай Польшчы, у Айчынную вайну — кіраўнік антыфашысцкай арганізацыі Брэстчыны, камандзір партызанскай брыгады; Валянцін Таўлай — выдатны беларускі паэт; Якуб Міско — здольны журналіст, пісьменнік; Аляксандр Шыдлоўскі — вядомы культурны дзеяч, цікавы кампазітар і г. д. Усе яны паказалі сябе непахіснымі змагарамі за роднае слова, за росквіт беларускай культуры.

Змаганне за адкрыццё беларускіх школ у Заходняй Беларусі працягвалася аж да 1939 года. Я сам неаднойчы пісаў дэкларацыі (заявы) сялян «пану школьнаму інспектару», за што часта цярпеў здзекі на пастарунку паліцыі і ў дэфензіве...

На жаль, і цяпер праблема беларускай мовы ў Беларусі на практыцы не вырашана.

Анатоль ІВЕРС.

г. Слонім.

